№ 23




# Іскры Ільліча

# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА | № 23

двухтыднёвая часопісь
для меншых дзяцей

ОРГАН ЦК ЛКСМБ
І НАРКАМАСЬВЕТЫ

1932 | 4 год выданьня


# ШТО МНЕ ДАЕ ЧАСОПІСЬ

Я — акцябронак і вучуся ў 39-й ФЗС, у 2-й групе. Часопісь „Іскры Ільліча“ я выпісваю ўжо даўно. Гэтую часопісь выпісваюць і ўсе вучні нашай групы.

Я ўпаўнаважаны па друку ў нашай групе. Сваю работу я люблю. Стараюся працаваць добра і добра вучыцца.

Што мне дае часопісь „Іскры Ільліча“?

Часопісь мне вельмі падабаецца. „Іскры Ільліча“ цікавяць і ўсіх нашых вучняў.

Часопісь знаёміць мяне з тым, што робіцца ў нас, у краіне Саветаў, і як жывуць дзеці працоўных за межамі, дзе пануе буржуазія. У часопісі я з ахвотай чытаю апавяданьні і вершы пра вучобу, пра школу. Гульні з часопісі мы развучваем у групе. У групе-ж мы чытаем часопісь і калектыўна, вывучаем напамяць вершы.

ЗАРАМБОЎСКІ ЛЁВА

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25

XVIII

# ПРЭЧ ПАПОЎСКІЯ І КУЛАЦКІЯ КАЛЯДЫ





Навука даўно давяла, што багоў выдумаў чалавек.

Выдумалі багоў яшчэ тады, калі людзі ня ведалі, што такое гром, што такое сонца, чаму чалавек паміраe, чаму адбываюцца зьмены году ды іншае, Вось тады і былі выдуманы розныя багі: бог грому, бог сонца, бог жывёл, расьлін і так бясконца. Людзі верылі, што громам загадвае пэўны бог. Калі ён захоча — будзе гром, пярун і дождж, калі не захоча — ня будзе. Гэтых выдуманых багоў людзі шанавалі, баяліся іх. Прыносілі ім ахвяры, ладзілі ў гонар багоў сьвяты.

З часам, калі пачала разьвівацца навука, лік багоў скараціўся. Але асталіся „галоўныя“ багі.

**Каму патрэбна вера ў бога?**

Толькі багатым—капіталістам і памешчыкам.

Папы ўсіх масьцей угаварваюць бедных, беспрацоўных буржуазных краін:

— Цярпеце, бо так бог хоча. Няможна зайздросьціць багатым, няможна адбіраць у багатых іх маёнткаў, заводаў.

Чаму-ж пасьля гэтага багатым ня трымацца веры ў бога? Чаму-ж не пашыраць ім разам з папамі казак пра бога сярод бедных, галодных беспрацоўных?



*Папы і кулакі—ворагі калгасаў*

Тое-ж было раней і ў нас. Рэлігія была вельмі моцнай апорай царскага парадку.

Буржуазія рыхтуе напад на Савецкі Саюз. Царква дапамагае ёй у гэтым. Рымскі папа праз увесь час заклікае веруючых выступіць супроць працоўных Савецкага Саюзу.

Як бачыце, буржуазія і царква супроць працоўных, гэта аднаго поля ягадкі. Вось каму патрэбна вера ў бога!

Вера ў бога — гэта тормаз на шляху да сусьветнай рэвалюцыі.

Мы ў кастрычніку 1917 году прагналі сваіх буржуяў. Зьнішчылі няволю. Але ўсіх сьлядоў мінулага ладу яшчэ ня зьнішчылі. Вера ў бога — гэта адзін са сьлядоў праклятага мінулага.

Праўда, за пятнаццаць год рэвалюцыі мы дабіліся вялікіх посьпехаў і ў змаганьні супроць папоўскіх казак, супроць рэлігіі. Мільёны людзей кінулі верыць у бога, парвалі з гэтым мінулым перажыткам. Але многа яшчэ і ў нас веруючых.

## Каму выгадна вера ў бога ў нас?

Нашым клясавым ворагам — папом, рабінам, кулаком і ўсім іх служкам. Яны трымаюцца веры і другім зацямняюць галовы.

Мы будуем новае вольнае жыцьцё, змагаемся за пяцігодку. А ворагі і ўсе веруючыя перашкаджаюць нам, тармозяць наша будаўніцтва, цягнуць нас назад да старых парадкаў.

У гэтым месяцы будуць праводзіцца папоўскія каляды. Папы будуць дурманіць галовы адсталых рабочых і сялян сваімі байкамі пра нараджэньне хрыста. Па вёсках у гонар каляд пацякуць рэчкі гарэлкі, у выніку гэтага нямала людзей будзе пакалечана, бо ніводнае п'янае папоўскае сьвята не абыходзіцца бяз крыві. Сотні людзей ня выдуць на работу. Яны будуць зрываць гэтым нашы пляны. Колькі страты, колькі шкоды нясе працоўным гэта сьвята—каляды? А ворагам гэта і на-руку.

Папы праводзяць сваю шкодніцкую работу ня толькі сярод дарослых. Яны дабіраюцца і да дзяцей, у школы.

У школе ў Сталінградзе дзеці знайшлі пісьмо аднэй вучаніцы да таварышкі:

**„Іра!**

**Я хацела-б стварыць такі гурток, члены якога верылі-б у хрыста. Ці можаш ты стаць членам такога гуртка? Заўтра дай мне адказ. Марыля Галішнікава“.**

Усе вучні гэтае школы змагаюцца за веды. Стараюцца добра вучыцца, каб з часам стаць карыснымі сьвядомымі будаўнікамі сацыялізму.

А Марыля занятая зусім непатрэбнай, шкоднай справай.

Мала таго: яна і другіх хоча адцягнуць ад навукі, адурманіць іх галовы вераю ў хрыста. Марыля шкодзіць у вучобе так-жа, як і нашы клясавыя ворагі шкодзяць сацыялістычнаму будаўніцтву.

Змагацца за пабудову новага жыцьця, супроць клясавых ворагаў, супроць папоўскіх і кулацкіх сьвят—такая задача ўсіх нас.

**Дзеці, уступайце ў рады юных бязбожнікаў! У кожнай школе арганізуйце гурток юных бязбожнікаў!**

# Каляднаяразмова

Верш КРАПІВЫ
Малюнкі КРОЛЯ



ЗВАНЫ

Апанас! Апанас!
Каляда прышла да нас.
Дзілім-бом! Дзілім-бом!
Аб падлогу бі йдзі лбом.
Бом! Бом!

СЕЛЯНІН

Селянін я бедны,
Дык мой лоб ня „медны“;



Молячыся богу,
Я ім аб падлогу
Ня буду біць—
Баліць.

ЗВАНЫ

Ох, бязбожнік! Ох,
гультай!
Сала-сала-сала дай!
Кажу табе не на сьмех,
Бо вялікі будзе грэх.
Дай! Дай!

СЕЛЯНІН

А ў мяне дачушка—
Надта-ж бо пястушка —





Абы толькі ўстала,
Дык скарэй за сала,
Ды люблю і сам—
Ня дам!

**З В А Н Ы**

Ну, цяпер табе капут—
На тым сьвеце страшны
суд,
Пасьля ў пекле аж на дне
Папячэшся на ражне.
Дасі ці не?

**С Е Л Я Н І Н**

Вам я не паверу—
Брэшаце ня ўмеру,
Не баюся суду
І даваць ня буду.
Ўжо праходзяць часы,
Што еў поп кілбасы,
Пачуў і я смак—
Пабудзе і так.

**З В А Н Ы**

Каляда прышла да нас,
Ды бяз сала, бяз кілбас,
Будзе-будзе-будзе так,
Бо пачулі людзі смак.
Так! Так!



# НЕ з малітвай, — а з машынай

Мы змагаемся за ўмацаваньне калгасаў, за высокія ўраджаі.

Каб мець высокія ўраджаі, зямлю трэба ўрабляць так, як вучыць навука. Не псаваць яе драўлянымі сошкаю ды баронкаю, а ўводзіць лепшыя сельска-гаспадарчыя машыны.

**З МАЛІТВАЙ**





Усяго гэтага мы можам дабіцца толькі ў калектыўных гаспадарках.

Вось чаму нашы ворагі — папы, кулакі і ўсе іхныя служкі—так актыўна выступаюць супроць калгасаў і машын. Яны стра-

шаць калгасьнікаў богам, пашыраюць хлусьню пра калгасы і машыны.

— Трактарам не арэце, бо зямля і збожжа будуць сьмярдзець газай... Хто будзе араць трактарам, бог таго пакарае. Ня з трактарам, а з малітваю выяжджайце ў поле, — угаварваюць папы і кулакі найбольш адсталых сялян.

Дзе не дапамагае хлусьня, нашы ворагі выступаюць з чырвоным пеўнем, — паляць калгасныя сьвірны, будынкі; ломяць і псуюць трактары, крадуць дабро...

Не з малітваю, а з машынай, з навукай мы даб'ёмся высокіх ураджаяў. І не на вузенькіх, дробных палосках, а ў калгасах.

Мы ўсе павінны змагацца супроць нашых ворагаў — папоў і кулакоў, за ўмацаваньне калгасаў, за высокія ўраджаі.

## З МАШЫНАЙ








# Прычасьцілася

Апавяданьне АЛ. ПАДГОРНАГА
Малюнкі ЭЙДЭЛЬМАНА

**Сьмерць і заразу нясе людзям рэлігія. Як-жа гэта так? У гэтым апавяданьні вы прачытаеце, як захварэла адна дзяўчынка, што прыняла папоўскае прычасьце. Прычасьце прымаюць з аднае лыжачкі ўсе: хворыя і здаровыя. Сьліна хворага лёгка можа трапіць здароваму. І гэтага даволі, каб здаровы стаў хворым.**

**Але ня толькі праз прычасьце перадаецца зараза ад хворага на здаровага. Тое-ж самае бывае, калі веруючыя цалуюць папу ў руку, у крыж, цалуюць абразы, „мошчы", усялякія „сьвятыя" каменьні... ды і не пералічыць усіх забабонаў! Гэтыя забабоны — найлепшы спосаб для пашырэньня заразы.**

Мікалай Трыгубін і яго жонка Алена—рабочыя. Мікалай працуе на ліцейным заводзе, Алена — на ткацкай фабрыцы.

Ідуць яны самі раніцай на работу, а дачку сваю Нінку на завод у дзіцячы сад Мікалай бярэ. Там яе накормяць, дагледзяць, а ўвечары, ідучы з работы назад, зноў Мікалай, або Алена, каму ёсьць час, забяруць дахаты.

Але здарылася ў сям'і Трыгубіных няшчасьце. Захварэла Алена. Завёз яе Мікалай у бальніцу, пакінуў там і вярнуўся дамоў.

Сеў Мікалай на табурэтцы і задумаўся: што-ж цяпер яму з дачкою рабіць? Гэта-ж нельга будзе на начную зьмену хадзіць, не пакіне-ж адну Нінку дома ўночы. Ды тут яшчэ, як на тое, зачыніўся дзіцячы сад на рамонт; так што і ўдзень няма з кім Нінкі пакінуць.

На гэту бяду маці мікалаева прыехала ў горад. Пагаварыла з сынам, пашла нявесткі даведалася, ды і кажа перад ад'ездам:

— Забяру я, сынок, унучку к сабе дахаты. Будзе яна там з другімі маімі ўнучкамі гуляць.

Рад Мікалай, дзякуе матцы, просіць яе:

— Адно глядзеце, мамачка, Нінку шануйце, нікуды яе ня пускайце.

Замахала маці рукамі, засьмяялася з сына:

— Што ты, Міколка, што ты! Ці-ж я маленькая...

Разьвітваецца Мікалай з дачкою, з маткаю, гаворыць ім на ад'езд:

— Ня сумуй, Нінка, мама паправіцца—прыедзе па цябе. Зноў будзеш у дзіцячы сад хадзіць, а вы, мамка, глядзеце яе. За ўсё аддзякую.

* * *

— Ну, вось вам яшчэ адна таварышка, гарадзкая ўнучка,—сказала Мар'яна, прывёзшы Нінку дахаты.

Глядзяць бабкіны ўнучкі на Нінку. Цацкі свае пачалі паказваць. Усё больш і больш асьмельваюцца.

Спадабалася і Нінцы ў бабкі. Весела тут у іх: птушкі штодня пяюць, зязюля кукуе. На дварэ бабкіны ўнучкі гуляюць увесь дзень у закоўку, у коні—ад іх і Нінка не адстае. Разгуляюцца—на абед цяжка даклікацца.

У нядзелю бабка Мар'яна кажа Нінцы:

— Сягоньня пойдзем з табою, унучка, у царкву. Паглядзіш, як там хораша.

— А што там робяць, бабка?—спытала Нінка.

— Паглядзіш сама,—яшчэ больш заахвочвае Мар'яна.

Ня была Нінка ні разу ў царкве. Гаварыў ёй тата пра папоў, пра ману іх, бачыла яна будынак царквы ў горадзе, як хадзіла ў дзіцячы сад, але сама туды ні разу не заходзіла.

Пакінула бабка сваіх вясковых унучкаў дома, загадала на дварэ гуляць, а сама ўзяла за руку Нінку і пашла ў царкву.

Людзей тут было мала і Нінка ўсё разглядзела як сьлед.

— А скажэце, бабка, чаму гэта вунь той чалавек у блішчастым дыміць так, а ўсе маўчаць?

— Так трэба, унучка. Гэты чалавек бацюшкам называецца.

— Чаму?

— Ціха, дай паслухаць. Не перашкаджай гаворкаю.

Пастаяла Нінка з поўгадзіны—надаела маўчаць. Бабка забараняе гаварыць, сама маўчыць.

— Хадзем, бабка, дахаты. Сумна тут,—просіцца Нінка.

— Зараз пойдзем, унучка, зараз.

Скончылася малеьне, пайшлі адны на двор, а другія паклыпалі да бацюшкі. Трымаецца Нінка за бабкіну руку, цягне яе на вольнае паветра, а Мар'яна нагнулася ды кажа ўнучцы:

— Яшчэ пойдзем да бацюшкі—цябе прычашчу.

— Я ня хочу. Я баюся яго. Я не пайду,—адмаўляецца Нінка.

— Дурненькая, паспрабуеш якое салодкае віно дае бацюшка,—цягне Мар'яна Нінку.

Падыходзіць Нінка з бабкай да папа, а сама думае:

— Паспрабую, а прыехаўшы, скажу маме, які смак мае бацюшкава віно.

Паглядзеў поп на Мар'яну, на Нінку вокам кінуў— павесялеў твар. Зразумела паповы думкі Мар'яна.

— З гораду, бацюшка, прывезла. Першы раз яшчэ прычасьце прымае. Няхрышчоная яна.

А гэтым часам, пакуль Мар'яна расказвала папу, падышла са сваім сынам Агата, што жыла на другім канцы вёскі.

Паглядзела Нінка на малога хлопца, што трымала цётка Агата, і пытае ў бабкі:

— Чаму гэта яго твар у больках?

— Ціха, унучка, ціха, — паднімаючы ўнучку да прычасьця, супакойвала Мар'яна.

Прычасьцілася Нінка, падзякавала Мар'яна папу і пайшлі яны дахаты.

* * *

Прыехала Алена па дачку і аж за галаву хапілася — увесь твар Нінкі ў больках.

— Што такое? Што з ёю сталася?

— Мусіць, з вецру, дачушка. Яно пройдзе. Я ўжо сьвянцонаю вадою акроплівала яе, — адказала Мар'яна.



*Бабка павяла Нінку ў царкву.*



*Падышла Нінка з бабкай да папа.*

А Янка, бабкін унучак, кажа:

— Такія-ж болькі ў Хведзькі Агацінага. Але-ж ён ня быў тут ніколі.

— Мамачка, а як я прычашчалася ў царкве, дык хлопец нейкі з такімі болькамі, як у мяне, быў там.

— Ты прычашчалася?—зьдзівілася маці.—Вось яно ад чаго і пачалося...

Цяпер усё зразумела Алена. Доўга ня думаючы, папрасіла скарэй запрэгчы каня і паехала з Нінкаю да доктара.

— Гэта-ж думаць, гэта-ж думаць, праз прычасьце так заразіць дачку,—гаварыла яна доктару.

— Добра, што прывезьлі на скорым часе, а то дрэнна было-б,—ківаў галавою доктар, аглядаючы Нінку.



**У царкву я не хаджу:**

**Я не багамолка.**

**Калі вырасту вялікай —**

**Буду камсамолка!**




# Цёткам навука

Верш КРАПІВЫ
Малюнкі КРОЛЯ

Вось пакута, дык пакута!
Стогне, енчыць цётка Ўлюта,
Ўжо канае вот-вот-вот —
Так схапіў яе жывот.
Аж ня знойдзе сабе месца...
Заўжды так, як хто аб'есца.
Вось і Ўлюце надта крута:
Шэсьць нядзель пасьціла Ўлюта —
На каляды з галадухі,
Пасьля бульбы й саладухі,
Цётка Ўлюта як прысела,
Дык паўшынкі зразу зьела;
Не дала пасьля, за мясам,
Яна ганьбы і кілбасам;
Гэтак сама й пірагу,
Гэтак сама й тварагу,
Гэтак сама й парасяці...

Ды ўсяму, што было ў хаце,
Яна ганьбы не давала,
Дык за тое-ж ледзь устала,
А праз нейкі час патом
Стала енчыць жыватом.
Як падверне ёй пад грудзі,
—Гвалт!—крычыць,—ратуйце, людзі!
Ох, саколік! Ох, Андрэй!
Па Агату йдзі скарэй!
Пакуль той прывёў шаптуху,
Дык Улюта ўжо й бяз духу.
От, браткі, была ёй мука!
Гэта, цёткі, вам навука!



# Школы хлусьні

**Школы ў буржуазных краінах туманяць галовы дзяцей працоўных вераю ў бога. „Усё бог дае"—вучаць настаўнікі дзяцей. Калі беспрацоўны і яго сям'я паміраюць з голаду—„гэта божая воля". Калі-ж буржуй жыве ў раскошы, прыгнятае рабочых — гэта зноў-жа „божая воля"...—кажуць яны.**

**Такою-ж хлусьнёю зацямняе галовы адсталым рабочым і царква.**

**Але зараз нават і многія дзеці ўжо ня вераць гэтай недарэчнай хлусьні—байкам пра бога. Такія байкі выгадны толькі для буржуазіі. А царква і школа—служкі буржуазіі.**

## „ГЭТА БОГ ДАЕ"

### ЛІСТ АМЭРЫКАНСКАГА ПІАНЭРА

Траха што ўсе вучні з нашай групы — каталікі. Настаўніца—таксама каталічка. Яна ўвесь час дурыць нам галовы богам, законам божым.



Многія нашыя бацькі беспрацоўныя. Настаўніца кажа нам вось што: гэта бог карае вашых бацькоў за іх грахі... Яна ўвесь час страшыць нас богам.

Я запытаюся ў яе калі-небудзь, чаму выходзіць так, што бог карае толькі бедных, а багатых ён і ня думае чапаць.

**Бэртыль Андрэсон**

# Нас прымушаюць маліцца

ЛІСТ ГЕРМАНСКАГА ПІАНЭРА



У маёй групе вучыцца 40 дзяцей. Нас вучаць „закону божаму“ і прымушаюць маліцца.

У школе нас б'юць лінейкамі, сякуць розгамі. Асабліва дрэнна вучыцца дзецям камуністаў і піанэрам, бо іх б'юць найбольш.

Піанэр ЭМІЛЬ.

# Вось гэта дык кніга!

ЛІСТ ПОЛЬСКАГА ВУЧНЯ

У нашай школьнай бібліятэцы многа кніжак. Але чытаць няма чаго, бо ўсё гэта кнігі пра розных сьвятых. Такіх сьвятых выдумана веруючымі вельмі многа, дык і кніжак пра іх напісана горы. Цэлая бібліятэка сьвятых!

Адзін вучань прынёс быў у школу кнігу пра савецкую пяцігодку. Вось гэта дык кніга! Мы ўсе яе прачыталі з ахвотаю.

Сынкі гандляроў пацiскалі плячыма:

„Ярунда!“—кажуць, а нам, дзецям рабочых, кніжка вельмі спадабалася.

Болей-бы даходзіла да нас такіх кніг!

ДУКЛІЦКІ.



# СЯРОД ДЗІКУНОЎ

**Заморская казка Я. МАЎРА** Малюнкі Ц. КІПНІСА

Адзін падарожнік забраўся ў нейкую заморскую краіну. Тубыльцы ў гэтай краіне займаліся земляробствам, нават мелі фабрыкі. Відаць, яны ўжо даўно пакінулі дзікунскі спосаб жыцьця, хадзілі апранутыя, бяз зброі. Ня было ў іх і пер'яў на галаве, і пярсьцёнкаў у носе. І хоць падарожнік крыху баяўся іх, але ўсё-ж вялікай бяды для сябе ня бачыў.

Вось ідзе ён раз па вуліцы паселішча, задумаўся аб нечым і не заўважыў, што насустрач яму ідзе нейкая жанчына. Жанчына ішла проста на яго, і, відаць, ня думала ані трошкі падацца ў бок. Падарожнік схамянуўся толькі тады, калі жанчына была зусім блізка. Саступаючы з дарогі, чалавек крыху зачапіў яе локцем.

Жанчына абурылася, пачала плёўвацца, чысьціць сваю руку, нібы ён яе запэцкаў.

— Як ты адважваешся чапаць мяне, паганец?—закрычала яна.—Ды цябе за гэта бізунамі трэба адлупцаваць! Ці ты ня бачыў, што я іду?

— Выбачайце,—адказаў падарожнік,—ня бачыў.

— Што?! — яшчэ больш раззлавалася жанчына. — Ня бачыў? Ды ты, відаць, зьдзекуешся з мяне.

Падарожнік убачыў, што на крык жанчыны пачалі зьбірацца тубыльцы, і хуценька пайшоў далей.

Ззаду ён пачуў галасы:

— Гэты паганец зганьбіў нашу жанчыну! Зачапіў яе. Потым пачаў зьдзеквацца. Затрымаць яго!

Ззаду пачуўся тупат ног.



*Тубыльцы павыскаквалі з усіх бакоў.*



*Падарожнік быў павешан.*

Падарожнік тады пабег, як мага. Ззаду чуліся крыкі:

— Трымайце, трымайце яго!

Вось ужо тубыльцы павыскаквалі з усіх бакоў, зьявіліся наперадзе. Няшчасны чужаземец быў злоўлен.

— Грамадзяне! — пачаў ён. — Я нічога дрэннага не зрабіў. Я няўмысьле закрануў яе локцем.

— Дык па-твойму ў гэтым няма нічога дрэннага? — зараўлі навакол. — Нашу жанчыну зачапіў і апаганіў — і нічога дрэннага?

— Грамадзяне, даруйце, пашкадуйце!—прасіўся небарака.

— Ды што з ім развaжаць — умяшаўся дужы, даўгі тубылец у шоўкавай камізэльцы.—На сук яго!

— Лінч! Лінч!—пачуліся галасы з натоўпу.

Пачуўшы гэтыя словы, падарожнік закалаціўся, як асіна...

Тым часам дзесятак людзей падхапілі яго і павалаклі да дрэва. Аднекуль зьявілася вяроўка. Вось яе зачапілі за сук, зрабілі пятлю...

І праз некалькі хвілін падарожнік быў павешан...

Тубыльцы шчэрылі зубы, рагаталі, рабілі розныя заўвагі. Натоўп іх усё павялічваўся і ўсе былі вельмі вясёлыя.

---

Вы, можа, думаеце, што тубыльцы гэтыя былі афрыканскія дзікуны, нэгры? Што няшчасны падарожнік быў які-небудзь амэрыканскі дасьледчык, які трапіў у афрыканскія джунглі (лясы)?

Не. Наадварот: падарожнік быў нэгр, а тубыльцы — белыя, культурныя амэрыканцы. Адбылося гэта не ў цэнтральнай Афрыцы, а ў Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах.

І адбылося не адзін раз, а штогод дзесяткі разоў.

Так званы „закон Лінча“, або самасуд **над нэграм**, — звычайная зьява ў „культурнай“ Амэрыцы, і за гэта ніхто не адказвае.

Варта толькі каму-небудзь з белых падняць скандал, як нэгр бяз ніякага суда, бяз ніякага разбору справы можа быць павешан.



# ЯК МЫ ПРАЦУЕМ

Наша чацьвертая зорачка акцябрат пачала працаваць з 1-га кастрычніка. За гэты час мы правялі шмат заняткаў. На занятках мы вывучылі новыя песьні, правялі гутарку аб антысэмітызьме, пра замежных дзяцей.

26-га лістапада нам важатая Філімонава расказала аб 3-гадовым юбілеі газэт „Піанэр Беларусі", „Юнгер Ленінец" і часопісі „Іскры Ільліча".

Мы пастанавілі кожны месяц выпісваць часопісь „Іскры Ільліча". Тут-жа мы сабралі грошы і выпісалі сваю часопісь адразу на 5 месяцаў.

З дапамогаю важатай мы будзем добра працаваць у зорачцы, будзем добра вучыцца ў школе.

**4-я ЗОРАЧКА АКЦЯБРАТ.**

Плешчаніцкая ШКМ.

# Сіла вады

## Вада—белы вугаль

Круцяцца млынавыя каменьні. Сыплецца ў скрыню мука. Гудзе-шуміць вялізарнае кола. Здалёку чуваць, як падае на кола **вада**, прыводзіць яго ў рух.

Ходзіць павольна мельнік і наглядае, каб не зламалася што, каб сваячасова засыпаць збожжа на кош.

А быў час, калі чалавек ня ўмеў скарыстоўваць вады для палягчэньня свае працы. Ён сам расьціраў каменьнямі збожжа. Яшчэ аж да нашага часу захаваўся крыху палепшаны млын старажытных людзей—жорны.

Праходзілі гады. Усё больш і больш чалавек думаў над тым, як скарыстаць для сваіх патрэб сілу прыроды.

На невялічкіх рэчках пачалі зьяўляцца млыны і іншыя прадпрыемствы, як пільні, воўначоскі.

Чалавек прымусіў працаваць ваду, пачаў скарыстоўваць яе. Вада замяніла працу людзей, коняй, яна замяніла дровы, вугаль.

Вада сама пачала называцца белым вугалем.

Спачатку людзі выкарыстоўвалі сілу невялічкіх рэчак, а потым усё большых і большых.



Вадзяны млын

Сёлета гераічным намаганьнем працоўных Савецкага Саюзу на Дняпры пабудавана найвялікшая ў сьвеце электрычная станцыя імя Ў. Леніна. **Вада** Дняпра замяніла сілу 810 тыс. коняй. Вада Дняпра выпрацоўвае электрычную энэргію для заводаў, для асьвятленьня дамоў.

Вось бачыце якую сілу мае вада—белы вугаль.



Плаціна на Дняпры

## Вада — пара

Спосаб скарыстаньня вады ў выглядзе пары людзі прыдумалі ня вельмі даўно. Пасьля гэтага вялікія зьмены адбыліся ў жыцьці людзей. Ручная праца шмат дзе замянілася машынамі, якія прыводзіліся ў рух параю. Паравозы памчалі вагоны з пасажырамі, грузам за тысячы кілёмэтраў ад месца жыцьця.

Ператворанaя вада ў пару патрабавала да сябе пільнай увагі. Здараецца, што вада выбухае, як порах. Ды што порах. Вада больш небясьпечна чым порах, калі ня ўмець з ёю абыходзіцца.




Паравоз

Быў выпадак у Амэрыцы, што вада ўзарвала цэлы дом у пяць паверхаў і забіла шмат людзей.

Як-жа гэта магло здарыцца?

Справа ў тым, што ў гэтым доме была фабрыка.

На ніжнім паверсе быў умураваны ў печы вялізарны кацёл. Вады ў ім зьмяшчалася столькі-ж, як і ў вялікай сажалцы. Калі палілі ў печы, вада ў катле кіпела, а пара ішла па трубе ў паравую машыну.

Аднаго разу машыніст не дагледзеў і ў час не дабавіў вады. У катле вады засталося зусім мала. А ў печцы ўсё палілася. А праз гэта сьценкі катла вельмі распаліліся. Машыніст аб гэтым не падумаў — узяў ды пусьціў ваду ў распалены кацёл.

А вы ведаеце, што бывае, калі льлеш ваду на распаленае жалеза? Яна ўся адразу ператвараецца ў пару.

Гэтак сама здарылася і тут. Вада ўся ператварылася ў пару. Пары ў катле набралася залішне, дык кацёл ня вытрымаў і лопнуў.

Здаралася яшчэ і горай. Аднойчы ў Нямеччыне адразу выбухнулі 22 катлы. Усе дамы навакол былі разбураны. Абломкі катлоў разьляцеліся на паўкілёмэтра ад месца выбуху. Многа загінула людзей.

Вось якую сілу мае вадзяная пара!

У вас у хаце таксама штодня выбухае некалькі тысяч паравых катлоў, толькі не вялікіх, а маленькіх. Калі дровы ў печцы трашчаць, гэта значыць, што іх ўзрывае вада. Зусім сухіх дроў няма, вада ў дровах заўсёды ёсьць.



**Дровы ў печы трашчаць, бо ў іх заўсёды ёсьць вада**

Ад вялікай гарачыні вада ператвараецца ў пару і з трэскам разрывае валокны дрэва.

## Цьвёрдая вада

Цьвёрдая вада—лёд—таксама часам выбухае.

Пара ўзрывае дамы, а лёд разбурае цэлыя горы. Адбываецца гэта так.

Увосень у шчылінкі скал трапляе вада. Зімою яна замярзае, ператвараецца ў лёд. Але лёд займае больш месца, чым вада,—праўда не на шмат—толькі на $^1/_{10}$ частку. Пад націскам лёду, які раздаецца ва ўсё бакі, трэскаецца самы моцны камень.

Праз гэта-ж лопаюцца і вадаправодныя трубы. Каб яны ня лопаліся, трэба іх на зіму ацяпляць — агортваць чым-небудзь, напрыклад лямцам.

Вы напэўна чулі, як зімою ў вялікія марозы трашчаць платы, стрэхі, крытыя гонтамі ці дошкамі. Гэта трашчыць набрэнкшае дрэва ад пашырэньня лёду. Лёд ня можа зьмясьціцца ў тых шчылінках, дзе была вада і рве валокны дрэва—пашырае сабе плошчу.










**Як лягчэй і спарней працаваць—рукамі ці машынамі?**

**Даведайцеся ад настаўніка, ад бацькоў, колькі можа замяніць рабочых рук кожная з гэтых машын.**

# З І М О Ю

ВЕРШ ДЗЯТКОРА М. КАЛАЧЫНСКАГА

На канькох лячу стралой
Па шырокай вуліцы.
Вецер гоніцца за мной,
Пад пальто мне туліцца.

А усход агнём гарыць,
Сьнегам пабяліўся.
Разагнаўся я з гары
Раз!—ды паваліўся.



Устаю, пад гучны сьмех,
Зноў з гары зьлятаю,
Хоць навокал сыпле сьнег,
Гурбы намятае.

А за мною ўвесь атрад
Мчыцца наўздагонку.
Чутны хлопцаў і дзяўчат
Песьні і гамонка.

# П А Д У М А Й

## загадкі

1. З дзесяці запалак складзеце слова „камсамол“.
2. Восемдзесят восем падзялеце так, каб засталіся адны нулі.
3. Я вашы хаты асьвятляю, кручу машыны; перавярнеце мяне і я—мышэй лаўлю.
4. Ляжыць—ніжэй ката, а ўстане—вышэй каня.
5. Складзеце з шаснаццаці запалак чатыры квадраты. Аднімеце цяпер сем запалак так, каб у вас вышла сто.

6. Што за воўк такі бывае—
Ўсе кашулі праядае.
Сам сталёвы, востры нос,
Канапляны мае хвост?

7. Калі хочаш ты чытаць,
Дык мяне павінен знаць,
Бо калі мяне не знаеш,
То й радка не прачытаеш.

Адгадкі глядзі ў № 24.

# Ж А Р Т Ы

## адгадаў

**Настаўнік** (пытае ў вучняў): Назавеце мне незамярзаючую вадкасьць.

**Вучань:** Я ведаю: гарачая вада.

*
* *

— Чаму гэта чапля стаіць, падняўшы адну нагу?— пытае Ўладзя ў свайго таварыша.

— Бо калі падняла-б абедзьве, дык упала-б, — бойка адказаў той.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактар—А. ЯКІМОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна Зак. № 3019 7740 экз. Менгарліт № 1440